Ніна Шклярава

# КРАСВОРДЫ І ЗАГАДКІ ДЛЯ ВАШАГА ДЗІЦЯТКІ

+
алфавіт па парадку,
дзівосаў скарбонка,
сакрэтная старонка



Мінск
«Кнігазбор»
2008

УДК 087.5:793.7
ББК 77.056я92
Ш 66

Кансультанты
*кандыдат філалагічных навук*
Т. М. Федарцова,
С. М. Мурын

Мастачка
Ірына Хацкевіч

**Шклярава, Н.**
**Ш 66** Красворды і загадкі для вашага дзіцяткі: алфавіт па парадку, дзівосаў скарбонка, сакрэтная старонка / Ніна Шклярава. — Мінск: Кнігазбор, 2008. — 84 с.

ISBN 978-985-6852-47-6.

Красворды і загадкі ў алфавітным парадку для маці, для таткі, для кожнага дзіцяткі. А можа, для прыяцелькі ці для выхавацелькі. Ды з любой нагоды ёсць яшчэ прыгоды для дзетак-дашкольнікаў і малодшых школьнікаў. Вам ужо цікава? Дык хутчэй за справу! Адгадаем мігам — прачытаем кнігу!

Прапануецца выхавацелям дашкольных установ, настаўнікам пачатковых класаў для заняткаў па развіццю лагічнага мыслення вучняў, іх мовы і памяці.

Кніга будзе таксама цікавай як для дзяцей, так і для іх бацькоў.

**УДК 087.5:793.7**
**ББК 77.056я92**



**ISBN 978-985-6852-47-6**

# СКАРБОНКА ДЛЯ ДЗІЦЁНКА

Адгадай загадку, напішы адгадку. Потым у красворд глядзі, сваю літару знайдзі. Назаві яе услых. Колькі гукаў ёсць такіх?

Цяпер слова ты чытай і яго запамінай. Гэта ключ у нас такі, хоць не ўзяць у дзве рукі. Адамкнем ім па парадку мы ў красвордзе ўсе загадкі.

Калі ёсць у нас ключы, то цяпер ты падлічы, па ліку якая літара тая, што ў пачатку слова, — адказаць гатовы?

Паглядзі сюды, прачытай склады. Наша літара красуе: як, скажыце, яе чуем? А як пішам — пакажыце і яшчэ раз назавіце!

А цяпер у алфавіце гэту літару знайдзіце!

Каля кожнага красворда* ёсць у нас усіх работа: адгадаць і запісаць, падлічыць і адказаць, — цэлая скарбонка ведаў для дзіцёнка! Як запомніш словы, будзеш ведаць мову.

Ёсць яшчэ старонка, дзе адказы — гронкай. Для любой блазноты, што любіць красворды: можа, для Алёнкі, можа, для Арцёмкі… Паглядзіш хоць раз — праверыш адказ…**
Вось якая гэта — скарбонка з сакрэтам!

З мамаю і таткам любую загадку адгадаем хутка, за адну мінутку. Адгадаем — мігам!

Вось якая кніга!

---

* Сінонім — крыжаванка, *ж. р.*
** Сакрэтная старонка — 78.

# А

Адкрылі старонку? Дык наперагонкі чытаем загадкі, нібы шакаладку абяцалі... Жарты? А хіба не варты?

*Па гарызанталі:*

1.

Сам нібыта шакаладка,
вушы — нібы дзве аладкі.
Карапузік лупавокі,
спяваць любіць караоке
з кракадзілам Генам —
і зусім нядрэнна.
Ч _ _ _ _ _ _ _ _ а.

2.

Толькі снег сышоў вясной,
на палянцы на лясной
заквітнеў радочак
ды з блакітных вочак.
П _ _ _ _ _ _ і.

3.

Звер у Афрыцы жыве,
ростам будзе з шафу.
Ходзіць важна, бы плыве,
і завуць — ж _ _ _ _ а.

4.

Каля самай рэчкі
пасецца авечка.
У зялёнай воўне
схавана гняздзечка.

Вецер зашуміць —
воўна задрыжыць.
А _ _ _ а.

5.

Лес. Паляна. Бугор. Яма.
Гэта яма кліча маму.
Клічуць вочкі з-пад павек.
Нарадзіўся ч _ _ _ _ _ к.

6.

Зубы ў рад, як на парад,
гладкі хвост пайшоў у рост.
Хвост узяў я за краёчак,
сена зграб усё ў стажочак.
Наступіў на зуб знянацку —
на ілбе гузак намацаў.
Г _ _ _ _ і.

7.

Паміж небам і зямлёй
я лятаю — о-ё-ёй!
Крыл не маю? Ну і што?
Прызямліцца я гатоў,
бо сакрэт адзіны тут:
я не бусел — п _ _ _ _ _ т.

Не хапайся за жывот і не смейся вельмі. Гэта першы наш красворд — склалі як умелі.




А цяпер адгадкі пішам па парадку*. Вось што атрымалі па гарызанталі. Услых прачыталі!

Літар сем па вертыкалі мы павесім, бы каралі. Вось цяпер гатова ключавое слова: а _ _ _ _ _ т.

Цяпер усе разам праверым адказы. Без падказкі мамінай адказалі правільна. Слова ключавое — ведаем такое. У ім самавіта стаіць кожная літара, сваё месца мае — пасярод ці з краю.

Слова паўтараем — а _ _ _ _ _ т.

---

* Усе адгадкі ў красвордзе пішам у назоўным склоне. Напрыклад: бліскавіц*а*, а не бліскавіц*у*.

# Б

Разаб’ем красворд на градкі, будзе літарам зарадка.



*Па гарызанталі:*

1.

Напалохалася ра́ка
на балоце забіяка.
Закрычала:
— Ква-ква-ква!
Ледзь не лопне галава!
Ж _ _ а.

2.

Дзе паўзу на жываце,
там зярнятка прарасце.
А тады ўжо на спіне
павязуць дамоў мяне.
Б _ _ _ _ а́.

3.

Файная паненка!
Моднае адзенне:
белая сукенка,

чорныя кішэні.
Б _ _ _ _ а.

4.
На адной назе гарэза,
і тую хочацца адрэзаць.
Ён схаваўся ў лесе
ад вачэй Алеся.
Г _ _ б.

5.
Зубы — востраю пілой,
хвост яго — рыдлёўкай.
Хату прама над вадой
збудаваў ён лоўка.
Б _ _ _ р.

6.
Цуд на мамінай градзе,
не знайсці такі нідзе:
полымя — зялёнае,
вугалькі — чырвоныя.
Іх тут набярэцца
цэлае вядзерца.
К _ _ _ _ _ _ _ ы.

*Па вертыкалі:*

Прачыталі неспадзеўкі, што расце такое дрэўка, вельмі-вельмі тоўстае і завецца проста. Вось яно якое, слова ключавое: б _ _ _ _ б.

# В

А цяпер красворд такі — словы ў розныя бакі!




*Па гарызанталі:*

1.

Капялюшык як надзеў,
дык у кошык захацеў.
Хоць на людзях не прывык
красавацца б _ _ _ _ _ к.

2.

Пад зямлёю прасядзела,
а ўся скура загарэла.
М _ _ _ _ а.

3.

Як яна пасецца,
футра аж трасецца.
Футра састрыгуць,
у клубок спрадуць.
А _ _ _ _ а.

4.

Ішлі купацца — рагаталі.
Назад — вадзіцы ў рот набралі.
В _ _ _ ы.

5.

Дзірка зверху,
дзірка знізу.
Сам — страшэнная капрыза.
На агні стаіць — рагоча.
То спявае, то не хоча.
С _ _ _ _ _ _ р.

6.

Ляжыць гняздзечка,
у ім — яечка.
Не руш, сарока!
Бо гэта в _ _ а.

7.

За парог пабегла без ног,
і ўсё шпарчэй, хоць і без вачэй.
В _ _ а.

*Па вертыкалі:*

А цяпер па вертыкалі адно слова прачыталі. Гэта будзе слоўка — шустрая в _ _ _ _ _ а.

Не забудзьце, паглядзіце, дзе стаіць у алфавіце *в* такая літара — два кружочкі хітрыя.

# Г

А далей ужо, рабяткі, самастойныя заняткі*. Дапаможа мама і сябры таксама. Нават ваша котка не бяжыць да сподка, а лягла ахвотна проста на красворды.



*Па гарызанталі:*

1.

Ву́чыць правільна пісаць,
словы розныя складаць.
Адкрывай яе часцей,
будзеш проста грамацей!

Г _ _ _ _ _ _ _ _ а.

2.

Край неба — вяроўкай —
зусім недалёка.
Ды як ні бягу —
ухапіць не магу.

Г _ _ _ _ _ _ т.

---

* Можна чаргаваць разгадванне дзецьмі красвордаў з пісьмовай работай па замацаванні напісання вывучаных літар алфавіта.

3.

На рацэ вясною
трэснула люстэрка,
паплылі гурбою
па вадзе талеркі.
К _ _ _ _ _ _ _ д.

4.

Куды хочаш дабярэцца,
хоць сама не зварухнецца.
Д _ _ _ _ а.

*Па вертыкалі:*

Снег, а летам сыпле — ох!
Такі круглы, як гарох.*
Г _ _ д.



Вось красвордзік караценькі. І яшчэ загадак жменька.




* Можна паспрабаваць самім скласці загадку на ключавое слова.

*Па гарызанталі:*

1\.

— Нешта мокрая шчака.
Чаго донька плача?
— Узяў тата шчанюка
і адвёз на д _ _ у.

2\.

З ім усе адкрыеш дзверы,
без яго турботаў шмат:
і мабільнік не паверыць,
не дасць грошай банкамат.
К _ д.

3\.

У сукенцы новай Верка,
нібы фанцік ад цукеркі.
На абцасах яе боты,
кажа Верка:
— Гэта м _ _ а.

*Па вертыкалі:*

Зноў па вертыкалі літары ўпісалі. Усе сабяром, прачытаем: д _ м.

Якія ўспомніце загадкі на слова гэтае, рабяткі? Якую казку вы чыталі, каго ў домік не пускалі?* Яшчэ ўспомнім: «Цілі-бом! Загарэўся кошкін д _ м!»

---

* Падказка: ліса не пусціла зайку.

# Дж

Як сябруюць, раскажыце,
*д* і *ж* у алфавіце?
Хто не знае, калі ласка,
прачытай маю падказку!

*Д* і *ж* — адно сугучча,
пішам літары дзве злучна (*дж*),
пасля гэтага адразу
вымаўляем дружна разам: *дж*!

Толькі ў кнізе нашай ніжай
у дзвюх клетачках запішам: дж




*Па гарызанталі:*

1.
Ён салодкі, бы варэнне,
густы, быццам студзень.
Як намажаш на пячэнне —
есці смачна будзеш.
Дж _ м.

2.

Як ляжыць —
ніжэй мяжы.
А калі ж устане —
да неба дастане.
Д _ _ дж.

3.

У мяне старэйшы брат,
ён вялікі музыкант!
Падрасту, тады якраз
з ім сыграю разам дж _ з.

4.

Лес трапічны, спрэс ліяны,
малпы ёсць там і бананы.
Лес завуць — напэўна, чулі? —
неяк дзіўна нават — дж _ _ _ _ і.

5.

Мая новая сяброўка
раньш жыла зусім далёка.
Не пабачыць нам адсюль,
завуць горад той — Дж _ _ _ _ л.

*Па вертыкалі:*

Укусіла мяне пчолка,
вельмі напужала.
Мама хуценька іголкай
выцягнула дж _ _ а.

# Дз

Ці то ногі, ці то рогі
тут ляжаць каля дарогі?
Нарабілі нам турбот...
Вой! Дык гэта ж наш красворд!

У красвордзе-крыжаванцы
*д* і *з* нібыта ў танцы.
Як і *дж*, іх пішам разам
мы без маміных падказак.

І запомніце, рабяты,
што завуць іх афрыкаты*.
У красвордзе афрыкатам
выдзяляем па дзве хаты.

І таму мы з вамі ніжай
так у клетачках запішам:



* Афрыкаты *дж* і *дз* пры размяшчэнні слоў у алфавітным парадку разглядаюцца кожная як дзве літары.

*Па гарызанталі:*

1.

Ішоў араты —
на зерне багаты.
Сем гатункаў пасеяў,
кожнаму імя даў.
Т _ _ _ _ _ ь.

2.

Стаіць дзіўны вартавы —
у штанах, без галавы.
А ён не зважае
ды варон пужае.
П _ _ _ _ _ а.

3.

Што за небарака —
зімкай смокча лапу,
а як сыдзе лёд,
лапу суне ў мёд?
М _ _ _ _ _ _ _ь.

4.

Што гэта за кветка
пасівела ўлетку,
А была вясною
Уся залатою?
Дзьмухнула Ларыса —
кветка стала лысай!
Дз _ _ _ _ _ _ _ ц.

5.

Бабулька худая,
галавой ківае.
Косы заплятае
і ў клубок матае.

К _ _ _ _ _ я.

6.

На спіне — пот,
а ў галаве — лёд.
Ежа ў жываце
ляжыць круглы год.

Х _ _ _ _ _ _ _ _ _ _ к.

*Па вертыкалі:*

Тук-тук-тук па вертыкалі! Хто такі там — прачыталі? Дз _ _ _ л.



Па гарызанталі зноў пішам усяго пяць слоў...



1.

Свеціць усю ночку,
пакуль і сарочку
да ніткі не спаліць,
аж дымок паваліць.
С _ _ _ _ а.

2.

Хто хлюпоча і брыдзе
босы проста па вадзе?
Дзюба доўгая такая,
жаб пад купінай шукае.
Б _ _ _ л.

3.

Вось дык мама ходзіць —
паштальён, дый годзе!
Не для пошты сумка
і не для ласункаў.
Сумка — гэта хатка
для яе дзіцяткі.
К _ _ _ _ _ у.

4.

Як завуць бамбізу-хлопца,
што красуецца на сонцы?
Загарэў увесь па вушы
і рагоча — зубы сушыць.
Я бамбізу правучу —
галаву яму скручу
і ўсе зубы палічу.
А затым я — гэта важна —
на патэльні іх засмажу.

І падсушаныя стрэмкі
звацца будуць смачна — семкі.
А бамбіза хто? Канешне,
на гародзе ён — с _ _ _ _ _ _ _ _к.

5.

Летам загараю
на сцяне адна я.
Зімой — справу знаю,
вопратку трымаю.
Апрануў мяне народ
нібы елку ў Новы год.
В _ _ _ _ _ а.

*Па вертыкалі:*

Літар пяць па вертыкалі... Што, скажыце, атрымалі? Рот закрый свой, летуценнік! Гэта слова — не варэнік. Гэта будзе проста в _ _ _ к.



І. Вам нагадвалі красворды калі-небудзь з мёдам соты? Ды шкада, з такой нагоды паспытаць няможна мёду.



*Па гарызанталі:*

1\.

Салёная расіца
ў вочках мітусіцца.
— Плачаш, мой сынуля?
— Не-а, ем цыбулю.
С _ _ _ ы.

2\.

Па-над кветкамі штогод
пчолка, нібы самалёт.
Мае поўны рот клапот,
каб ты еў салодкі м _ д.

*Па вертыкалі: ё _.*

II. Ёсць у літары два вочкі, ну а ў нас — красворды два. Адпачнем, як прыйдзе ночка, днём працуе галава.



*Па гарызанталі:*

1.

Вусатыя хлопцы —
добрыя малойцы —
стаяць у капотах,
як салдатаў рота.

А _ _ с.

2.

Адзін зубік маю,
але так кусаю,
што вакол асколкі
лётаюць, бы пчолкі.

С _ _ _ _ _ _ _ _ _ к.

3.

Крылы мае, а не птушка,
за хвастом уецца стужка.
Унутры сядзіць народ,
гэта у небе с _ _ _ _ _ т.

4.

Рады пчолкі і чмялі.
Кветкі ў полі зацвілі.
Пасівеюць, як бабуля —
будзе мне тады кашуля.

Л _ н.

5.

Нібы сіні матылёк,
кветка ў жыце ўецца.
Упляту яе ў вянок,
хай не задаецца.

В _ _ _ _ _ к.

6.

Са школы я з табой іду,
каму я ў рукі пападу,
таму паказваю адзнакі,
хоць і зусім не задавака.
Дз _ _ _ _ к.

7.

Яно і дзень, і ноч гаворыць,
хаця не кормяць і не пояць.
Навіны нам распавядае,
нібыта ўсё на свеце знае.
Р _ _ _ ё.

*Па вертыкалі:*

Можна падзівіцца
пасля навальніцы,
як яна ў нябёсах
распусціла косы,
як яна красуецца
ды з зямлёй мілуецца.
В _ _ _ _ _ а.






*Па гарызанталі:*

1.

Вазьму ў жменьку
дый закіну.
Выйдзе войска —
спіна ў спіну.
Ж _ _ а.

2.

Пузаты збаночак
прылёг на лісточак.
І з гэтым лісточкам
зваліўся з дубочка.
Ж _ _ _ д.

3.

Род — шаноўны,
пах — чароўны,
ды калючкі коляць ручкі.
Р _ _ а.

4.

Салодзенькі сняжок
просіцца ў раток.
Есці — любата!
Адна смаката.

М _ _ _ _ _ _ _ е.

5.

Гэта хто забраўся ў кошык,
ані ручак, ані ножак,
толькі вострыя іголкі.
І навошта мне іх столькі?
В _ _ _ к.

6.

Не ляну́йся ты ў бары
ды грыбочкаў набяры.
Там растуць на ўзмежку
дружна с _ _ _ _ _ _ і.

7.

Вядзе куды хочаш,
як па ёй пакрочыш.
Варта ёй згубіцца —
можаш заблудзіцца.
С _ _ _ _ _ а.

8.

Як знайшла крынічку,
выпіла вадзічку,
бо яна ўдаленькая,
хоць сама маленькая.
Л _ _ _ а.

*Па вертыкалі:*

Дзе ў лясах птушыны гам,
стужкі-ручаіны,
чырванеюць ярка там
кроплі — ж _ _ _ _ _ _ _ ы.

## 3




*Па гарызанталі:*

1.

Недзе хтосьцейкі ў цяньку
зноў крычыць: «Ку-ку! Ку-ку!»

Ці то ў лес гукае,
ці каго шукае?
З _ _ _ _ я.

2.

Маляваў ён на акенцы
дзіўны лес і горы.
А затым пабег пагрэцца
пад сумёт за горад.
М _ _ _ з.

3.

Гэта што за карапуз
у гародніне загруз?
Пацягнуў яго за вус,
бачу — з семкамі г _ _ _ _ з.

4.

І што гэта за кабета
на лужку траву скубе?
У кажух яна адзета,
растуць рогі на ілбе.
Малако яшчэ дае,
як падоіш ты яе.
К _ _ а.

5.

Як яны расплюшчаць вочкі,
свае выпусцяць лісточкі,
прыляцяць да іх чмялі,
пчолкі, мушкі, матылі.
Пацалуюць іх у шчочкі,
зазвіняць тады з _ _ _ _ _ _ і.

*Па вертыкалі:*

Нехта зернеткамі ў небе
засявае Млечны Шлях.
Ранкам іх праменьчык срэбны
падзяўбе, нібыта птах.

З _ _ _ і.






*Па гарызанталі:*

1.

За акенцам знайшла сала
і сяброўак пагукала,
бо такая звычка
ў птушачкі с _ _ _ _ _ і.

2.

Сёння нельга мне гуляць,
трэба крышку паляжаць,

бо я слухацца прывык,
што мне скажа г _ _ _ _ _ _ _ к.

3.

Дождж ці сонца — усё адно:
Я люблю глядзець к _ _ о.

4.

Паглядзі: сараканожка,
а забралася на дошку.
Дошку бедную кусае,
тая слёзкі пралівае.
П _ _ а.

5.

Гаманкая маладзічка,
нам яе вядома звычка.
Дзень і ноч яна гамоніць
ды вадой крыштальнай поіць.
К _ _ _ _ _ _ а.

6.

Малады такі грыбочак,
не адвесці нават вочак.
Шчочкі чырванню гараць,
з-пад асіны аж відаць.
П _ _ _ _ _ _ _ _ _ к.

*Па вертыкалі:*

Скача па кашулі госця,
куды дзюба, туды й хвосцік.
Кветку вышыла і пчолку
на кашулі мне і _ _ _ _ а.






*Па гарызанталі:*

1.

Без вачэй, а сцежку бачыць,
і калі па ёй паскача,
то сляпога ён, вядома,
давядзе ажно да дома.
К _ й.

2.

Што за лічба з адным вочкам?
Мае хвосцік свой — кручочкам.
А ў матулі вочак колькі?
Вось і лічба з назвай — д _ _ _ _ а.

3.

З малаком у кубку чай
прыгадаў я, выбачай,
калі ўбачыў каля тыну
з гэткай назваю расліну.
М _ _ _ _ _ й.

4.

Чык-чырык ды чык-чырык!
Нехта ладзіць чаравік?
Глянуў — зернетка дзяўбе,
ой, дык гэта ж в _ _ _ _ _ й.

5.

Ні работы, ні турботы
ад нядзелі да суботы.
Спіць ён болей за ката,
нездарма ж завуць г _ _ _ _ _ й.

6.

Бяжыць па горадзе алень,
людзей катае цэлы дзень.
Рагамі ўрос у правады,
без правадоў ён — нікуды!
Т _ _ _ _ _ _ _ с.

7.

На агні — пузаты пень,
рука засунута ў кішэнь.
А ў жываце такая муць,
што ў носе бурбалкі пяюць.
На галаву чапец надзеты...
Агонь патух — і песня спета.
Ч _ _ _ _ к.

*Па вертыкалі:*

Есць ён жыта колькі хоча,
задаволена ракоча.
Толькі як ён ні глытае —
назад зерне вылятае.
К _ _ _ _ _ н.

# К




*Па гарызанталі:*

1.

Любіць ён у норцы спаць.
Ці баіцца мо парваць
аб даўгі драўляны сук
футра моднае б _ _ _ _ к?

2.

Косіць жыта спраўна,
і кладзе забаўна
прама мне пад ножкі
роўнаю дарожкай.
А завуць асілка
не касар — к _ _ _ _ _ а.

3.

Як абдымеш ты яе,
дык зайграе, запяе.
Кліча сваім зыкам
за сабой музыку.
С _ _ _ _ _ а.

4.

Драўляны хлапец
маляваць — удалец!
А _ _ _ _ к.

5.

Хто стракоча на куце,
спаць дадому не ідзе?
Вылезу з-пад посцілкі,
пашукаю госцейку.
Мама кажа мне:
— Сынок,
заляцеў к нам ц _ _ _ _ _ _ _ _к.

6.

Як навучыўся я чытаць,
дык у доме ціха.
І калі лажуся спаць —
са мной побач к _ _ _ а.

*Па вертыкалі:*

«Му-у» працяжнае прамовіць
і бяжыць у хлеў бягом!
Калі хто яе падоіць,
дык напоіць малаком.
К _ _ _ _ а.

# Л




*Па гарызанталі:*

1.

Сёння ў вёсцы шалі
з дзедам напаткалі.
Вёдры замест гіраў!
Я дзівіўся шчыра,
запытаўся ў дзеда:
— Як завецца гэта?

Проста і без домыслу
дзед сказаў:
— К _ _ _ _ _ _ _ _ л.

2.

Каля рота — самалёты,
у жываце — аэрадром.
Як завецца гэты дом?
В _ _ _ й.

3.

Яе хвосцік — як нажніцы,
яна — птушка-працаўніца.
Домік свой птушыны
вылепіла з гліны.

Ловіць мошак на ляту,
што зайздросна і кату.
Л _ _ _ _ _ _ _ а.

*Па вертыкалі:*

З грывай ён, але ж не конь,
на хвасце — вузельчык.
І царом сярод звяроў
ён слыве, дарэчы.
Л _ ў.




*Па гарызанталі:*

1.
Калі маме часта хлусіш,
пэцкаеш адзенне,
то сказаць табе я мушу:
— Ты згубіў с _ _ _ _ _ _ _ е.

2.

Маленькія вочкі,
надзьмутыя шчочкі,
што ні схопіць у руку́,
ён схавае за шчаку.

Х _ _ _ к.

3.

Калі садзіш агарод,
будзеш сыты цэлы год.
Як засеяна ралля,
тады шчодрая з _ _ _ я.

4.

Стаіць Гаўрылка,
у галаве — дзірка,
а з дзіркі дымок
паваліў убок.

К _ _ _ н.

5.

Мые голле дрэва,
бо пайшла залева.
Грымнуў гром над ганкам,
бліснула м _ _ _ _ _ а.

6.

Хто найлепшы самы ў свеце?
Гэта знаюць усе дзеці.
Прыгажэй за ўсіх таксама
для дачкі і сына м _ _ а.

*Па вертыкалі:*

Лезуць ягадкі на плот,
проста просяцца мне ў рот.
Не магу адмовіцца,
гам яе, свавольніцу!
М _ _ _ _ а.

# Н




*Па гарызанталі:*

1.

Бяжыць маладзіца,
за ёй — бліскавіца.
А куды? Вядома,
на спатканне з громам.
Н _ _ _ _ _ _ _ _ _ а.

2.

Хоць не домік, дах ён мае,
ад дажджу цябе схавае.
У руках, бы кветка, ён
і завецца п _ _ _ _ _ н.

3.

Дзве нагі і дзве дарогі,
грузнуць у дарогах ногі.
І сыходзяцца яны,
дзе на гузіках ш _ _ _ ы.

4.

Два кружочкі, два браточкі
муку мелюць дзень і ночку.
Ж _ _ _ ы.

*Па вертыкалі:*

Запішаш — музыка выразна
па іх чытаецца адразу.
Але яны зусім не літары —
іх пішуць толькі кампазітары.
Н _ _ ы.

# О




*Па гарызанталі:*

1.

Ён як мячык, ды не скача,
ма́е іншую задачу:
ён любы пакажа горад,
а захочаш — нават горы.
Г _ _ _ _ с.

2.

Ем зямлю я вельмі лоўка,
там, дзе ўзгорак быў, — пляцоўка.
Не згублюся я ў дарозе,
бо вялізны я — б _ _ _ _ _ _ _ _ р.

3.

Як ідзеш ты паўз мяне,
паглядзець не праміне́ш.
Што на вуліцы відно,
ты пабачыш у а _ _ о.

4.

Тата некага прынёс,
што гудзіць, як паравоз,
пыл глытае — любата!
Нібы гэта смаката.

П _ _ _ _ _ с.

5.

«Так-так-так!» —
дзярэ ён глотку.
Сам з жалезнаю бародкай.
Нос драўляны, ды такі,
што тырчыць ён з-пад рукі.
Гэты шустранькі дзядок
назву мае — м _ _ _ _ _ к.

6.

Ма́е вушы, нос і грыву,
ногі — дужыя на дзіва.
З-пад капыт ляціць агонь,
гэта рыссю скача к _ _ ь.

7.

Гэта што яшчэ за хвост
цераз рэчку лёг наўпрост?
І цяпер там без турбот
пехатой снуе народ.

М _ _ т.

*Па вертыкалі:*

Чую жыта хваляванне,
надышло каласаванне.

Каля жыта — луг наўпрост,
касары — на поўны рост
косяць спелую траву,
з рэхам водгукі плывуць.
Менцяць косы ля двара —
сенакосная пара!

С _ _ _ _ _ с.





*Па гарызанталі:*

1.

Нехта плача ў жыце?
Туды не бяжыце.
То крычыць на золку
птушка — п _ _ _ _ _ _ _ а.

2.

З мамай мы аднойчы летам
назбіралі з дрэва кветак,
што расце ля нашай хаты.
Будзем з кветак піць гарбату.

Л _ _ а.

3.

Каласок да каласочка,
перавяжам паясочкам,
звесім чуб яму на лоб —
атрымаўся з жыта с _ _ п.

4.

Вось вам дык лапата!
Хоць зусім гарбата,
ды арэ зямельку,
сцеле, як пасцельку.

П _ _ г.

5.

Ля плота паненка
расце зеляненька!
І ўсё харашэе.
Падышла бліжэй я…
Гэта кракадзіла
за руку ўкусіла.

К _ _ _ _ _ á.

6.

З яе робяць хлеб і булкі,
а пакуль красуе ў полі.
Матылькі там і казюлькі

забаўляюцца на волі.
І з яе не зводзіць вочак
сам блакітны васілёчак.
Як завецца чараўніца,
падкажы ты мне?
П _ _ _ _ _ а.

7.
Дзядзька ў мора скача —
пажадай удачы:
ловіць ён варэнікі
для маіх пляменнікаў.
А _ _ _ _ _ _ _ к.

*Па вертыкалі:*

Такі гладзенькі бычок
выйшаў з мора, на сняжок.
Замест ножак — ласты.
Ён не морж клыкасты.
Ён сеньёр гасцінны,
і завуць п _ _ _ _ _ _ _ _ м.

# Р




*Па гарызанталі:*

1.

— Кар-кар-кар!
Кар-кар-кар!
Не скупіся, гаспадар!
Не зляціць з цябе карона,
як накорміш ты в _ _ _ _ у.

2.

У вадзе жыве і рада.
Яе вопратка — як латы.
Слоўкам не абмовіцца,
а на вуду ловіцца.
Р _ _ а.

3.

Можа, будзе ростам з мошку
і кусаецца патрошкі.
А калі яго заб’еш,
сваю кроў тады пральеш.
К _ _ _ р.

4.

Белы бок і чорны бок...
— Гэта хто, — спытаў сынок, —
тут праводзіць танцы
на дзіцячым пляцы?
— Ды гэта ж с _ _ _ _ а
пусцілася ў скокі.

5.

Каля хаты дрэва,
нібы каралева.
Лісточкі зялёныя,
ягадкі чырвоныя,
да самага тыну
дастае р _ _ _ _ а.

6.

Вылятае, нібы куля,
прама ў неба — ладзіць гулі.
Доўга ў космасе гуляе,
ды назад Зямля вяртае.
Р _ _ _ _ а.

7.

Адляжуся ў школьным сшытку,
бо даўно табой забыта.
Але што ты ні пральеш,
дык успомніш пра мяне.
Хоць прамокну я да ніткі,
але насуха ўсё вытру.
П _ _ _ _ _ _ _ _ а.

*Па вертыкалі:*

На лужку — я бачыў летам —
многа вырасла сурвэтак.
На іх можна варажыць,
калі ведаеш — скажы!
Р _ _ _ _ _ _ к.




*Па гарызанталі:*

1.
Як здалёк цябе пабачыць,
дык ад радасці аж скача
і насустрач пабяжыць.
Будзе навакол кружыць,
нібы хоча што сказаць!
Толькі «гаў» ды «гаў» чуваць...
С _ _ _ _а.

2.

Ён усе хваробы лечыць,
а бывае, і калечыць.
Ад яго нідзе не дзецца,
хоць памры, ён застаецца.

Ч _ с.

3.

Сам танюсенькі, худзенькі,
а зярнят гадуе жменьку,
у вусах сваіх хавае.
Вусы сонцу падстаўляе.

К _ _ _ с.

4.

Апусцілі вербалозы
да рачулкі свае косы.
А на іх, нібы сляза,
ззяе чыстая р _ _ а.

5.

У мяне ёсць конь вясёлы,
замест ног мільгаюць колы.
Асядлаю я яго
і аб’еду ўсё кругом.

В _ _ _ _ _ _ _ д.

6.

Я на месячык падобны.
Хоць зусім я не галодны —
рот разяўлены ў мяне
і старанна жыта жне.

С _ _ п.

7.

Дзень за сабой усюды водзіць,
а сядзе — ночка надыходзіць.
Назаві лагодненька,
гэта будзе — с _ _ _ _ _ _ а.

*Па вертыкалі:*

Дзень і ноч, як на арэлях,
сад калыша ў лісцы трэлі.
Сціхлі конікі ў траве,
бо спявае с _ _ _ _ _ й.



*Па гарызанталі:*

1.

Шчокі — як падушкі,
як аладкі — вушкі.
Гладзенькая спінка,
тонкая шарсцінка.
Ён ганяе мышак,
потым спіць у цішы.
К _ т.

2.

Што за гусь ідзе, сакоча,
укусіць узгорак хоча?
Паглядзіце, укусіў!
Ямка там, дзе ўзгорак быў.
— Не крычы, — заўважыў тата, —
а то спудзіш э _ _ _ _ _ _ _ _ _ р.

3.

Нагуляўся я ў ахвоту,
хоць была са мной прыгода...
За гарлачыкам палез —
і загруз у багне ўвесь.
Тата ўзяў мяне за шорты
раз — і выцягнуў з б _ _ _ _ а.

4.

Устань хутчэй, ужо смяецца
праменьчык сонечны ў акенцы.
Паслухай птушак шчабятанне
і разам з імі стрэнь с _ _ _ _ _ _ е.

5.

Просіць есці ён мяхамі,
нібы чмель, гудзіць.
Крыламі махае,
ніяк не ўзляціць.

В _ _ _ _ к.

6.

Зляцеў з дрэва, нібы птушка,
а ў рацэ ён — як чаўнок.
Будзе доўга хваля гушкаць
арабінавы л _ _ _ _ к.

7.

Па сакрэту ўсяму свету
выдасць тайны ўсе г _ _ _ _ а.

8.

На ёй пасвіцца кароўка,
жабка там жыве.
Жаб шукае вельмі лоўка
бусел у т _ _ _ е.

9.

Ён арэ зямлю. Ралля —
роўненькім радочкам.
А па ёй гракі пасля —
звілістым шнурочкам.

Т _ _ _ _ _ р.

*Па вертыкалі:*

Там канцэрт ідзе даўно,
а бывае — і кіно.

А пасля канцэрта
стрэча з прэзідэнтам.
Т _ _ _ _ _ _ _ р.

# У



I. *Па гарызанталі:*

1.

Муха па сцяне гуляла,
павука там напаткала.
Лямант гэтай мухі
не выносіць в _ _ а.

2.

Доўга не ляжы на сонцы,
а то спаліш скуру.
Ты і сам разумны хлопец,
ты ж у нас — не д _ _ _ _ ь.

3.

Як далонь, шырокі ліст
вырас каля ўкропу.
Ён лячыць — спецыяліст,
і завецца — л _ _ _ х.

4.

Паднясу да вуснаў — грае,
покуль дзьму я, не змаўкае.
Адпачну мінутку,
зноў зайграе д _ _ _ а.

*Па вертыкалі:*

У дупле схаваўся франт,
можа, гэта эмігрант?
Надушыўся цераз край,
хоць ты нос свой затыкай.
У _ _ д*.

II. Гэта што за казярака? Нагадала ў рэчцы рака! Гэта наш другі красворд? Разгадаем без турбот!




* Распытай у дарослых, што гэта за птушка.

*Па гарызанталі:*

1.

А за вёскай над ракой
разлілося малако.
Вісіць у паветры —
не разгоніш ветрам.
Гэта праўда, не падман,
малако завуць — т _ _ _ н.

2.

Вылежаўся ў яме,
гладзіўся рукамі,
сядзеў на кружары,
цярпеў на пажары,
а пабыў у печы —
накарміў малечу.
Ч _ _ _ _ _ к.

3.

У гародзе пад кустом,
пад зялёненькім лістом —
беленькая кучка,
завуць кучку б _ _ _ _ а.

4.

Гаспадар сваю далонь
на мяне кладзе.
Як мяне ні засупонь —
конь мяне вядзе.
Д _ _ а.

5.

Мой татулечка рыбак,
вудзіць рыбу ён мастак.
Усяго адзін чарвяк,
а папаўся сам ш _ _ _ _ к.

6.

Я вывязваю сурвэтку —
кацянятка таму сведка.
Ля ног верціцца каток,
ловіць шустранькі к _ _ _ _ к.

7.

Пасярэдзіне вугла
павуціна пралягла.
Павуціна ўся дрыжыць,
калі ён па ёй бяжыць.
Ён сярдзіты і кусачы,
ад яго ўсе мухі плачуць.
П _ _ _ к.

*Па вертыкалі:*

Працавітая, бы пчолка,
хіба не лятае толькі.
Хоць маленькая такая,
а наступіш — пакусае.
М _ _ _ _ _ а.






*Па гарызанталі*:*

1.

Ён у космас захацеў,
На ракеце паляцеў.
І шчаслівы ён, вядома,
Як вяртаецца дадому.
К _ _ _ _ _ _ _ _ т.

2.

Пузан Пузанавіч Пузаты
абагнаў усіх і рады.
Быў ён шпаркі і вясёлы,
Ды прабіў знянацку колы.
І цяпер глытае пыл
ля шашы а _ _ _ _ _ _ _ _ _ ь.

* Падказка: у кожным слове ёсць *ў*.

3.

Недзе ў паднябессі
загучала песня,
нібы хто званочак
узяў ды павесіў.
Глянуў я з-пад рук
і пазнаў — ж _ _ _ _ к.

4.

Ну і пуза ў карапуза!
І танцуе з гэткім грузам,
нібы ён артыст балета,
трэба толькі бачыць гэта!
В _ _ _ _ к.

5.

За хвост спаймала,
у руцэ трымала.
Папіла вадзіцы,
паклала на паліцу.
К _ _ ш.

6.

Вось расліна дык расліна!
Учапілася ў тканіну.
І надзьмулася, як вожык,
і калоцца нават можа.
Дз _ _ _ _ _ _ к.

7.

І што гэта за парсюк:
два лычы, ні ног, ні рук!
У яго нальем вады
і паставім вось сюды,

бо гэта пляцоўка,
дзе стаяць н _ _ _ _ _ _ і.

8.

Вырасла бразготка
на гародзе ў цёткі.
А ў бразготцы жменька
кашы саладзенькай.
М _ _ _ _ _ _ а.

*Па вертыкалі:*

Есці хоча — дык бурчыць,
а пад'еўшы — быццам спіць:
на цябе ахвотна
нагоніць дрымоту.
С _ _ _ _ _ _ _ к.





*Па гарызанталі:*

1.

Стаіць важная персона,
угары гарыць карона.
І загадвае нам строга,
калі перайсці дарогу.

Мы стаім — гарыць чырвоны,
мы ідзем — гарыць зялёны.
Калі жоўты — разважаем.
Мы персону паважаем.

С _ _ _ _ _ _ _ _ р.

2.

Пасля дождныку Змітрок
бег па лужынах знарок.
Ад вады набухлі
новенькія т _ _ _ і.

3.

Тутака што чуюць,
пра тое вяшчуюць.

Так за словам слова
і цячэ размова.
Хоць не бачыць вока,
а чуваць далёка.

**Т _ _ _ _ _ _ ф.**

4.

Колы круцяцца ўнутры,
колы ўмеюць гаварыць!
Яшчэ могуць заспяваць
і з табой патанцаваць.
Скажу толькі па сакрэту:
— Не забудзь — пастаў касету.

**М _ _ _ _ _ _ _ _ н.**

5.

Нібы пан я на пляцоўцы,
і заўсёды — дзіва:
у нябёсах свеціць сонца,
а дзе я, там — лівень.

**Ф _ _ _ _ н.**

*Па вертыкалі:*

Словы правільна ўпісалі, назву птушкі атрымалі, што палюе ўночы... Падказаць хто хоча?

**Ф _ _ _ н.**

# Х



*Па гарызанталі:*

1.

Я спачатку — зерне.
Потым — каласок.
Хаваю ад пеўня
залацісты бок.

Каласкі ўсе разам
дружна сабяруць,
а затым адразу
цапамі паб’юць.

Покуль спачывае
на таку той цэп,
з мукі выспяваю
пад назваю — х _ _ б.

2.

Злавіў цакатуху
і паднёс да вуха.
Мяне мама папрасіла:
— Кінь, пакуль не ўкусіла.

Будзе брудным вуха,
калі ўкусіць м _ _ а.

3.

Еду ў вёску, не на дачу,
з мамаю і татам.
Там дзядулю я пабачу,
там у дзеда х _ _ а.

4.

За акенцам снег ідзе,
не відно зусім людзей.
Там са снегу пацяруха,
бо мяце там з _ _ _ _ _ _ _ а.

5.

Што за рогі — бух у ногі —
на куце каля парога?
З кашай чыгунок, дарэчы,
лоўка выцягнулі з печы.
Гэты хлопец проста хват,
нездарма завуць — у _ _ _ т.

*Па вертыкалі:*

Разраўлася ў небе плакса,
як мая сяброўка ў класе.
І злуецца падазрона.
Пабягу па парасон я!
X _ _ _ а.







*Па гарызанталі:*

1\.

Па чыгунцы конь бяжыць,
аж ваколіца дрыжыць.
З носа — дым, а з рота — зык,
конь завецца наш — ц _ _ _ _ к.

2\.

Абаранкі два ды рожкі,
рожкі чуб стрыгуць Сярожку.
Не паспеў я падзівіцца,
як састрыглі ўсё н _ _ _ _ _ ы.

3\.

Не знойдзеш улетку
лепшай чараўніцы.
Мёдам пахне кветка
з назвай м _ _ _ _ _ _ а.

4.

Грукаціць за хмарай
грому калясніца.
Пугай гром ударыў
моцна б _ _ _ _ _ _ _ _ у.

5.

Настаю на малацэ,
замяшаю на муцэ,
дабаўлю яечка,
пастаўлю пад вечка
ў цёплае мясцечка.
Будзе, як нявеста,
маладое ц _ _ _ а.

6.

Правядзе хутчэй уніз
і наверх падыме,
хто катаецца на ліфце,
не сябруе з тымі.
Л _ _ _ _ _ а.

7.

Растапырыш іх — пятак,
а сагнеш, тады — кулак!
П _ _ _ _ ы.

*Па вертыкалі:*

Атрымалі інструмент музычны, вельмі-вельмі зычны. Калі ён зайграе — нібы хто спявае.
Ц _ _ _ _ _ ы.

# Ч

Абярэмачак загадак адгадаць яшчэ вы рады?



*Па гарызанталі:*

1.

Ці то едзе, ці паўзе,
домік на сабе вязе.
А ў вадзе — дык плавае,
яшчэ тым цікавая,
што жыве прыблізна
гадоў, можа, трыста!

Ч _ _ _ _ _ _ а.

2.

Што ў пячоры за нага —
золата зграбае?
А з-пад гэтае нагі
жарам патыхае.
Паграбла, патанцавала,
дый у кут на варту стала.

К _ _ _ _ _ а.

3.

Стаіць караценькі
бычок маладзенькі.
Радуюцца вочачкі:
гэта з мёдам б _ _ _ _ _ а.

4.

Калі траплю пад сасну,
дык грыбочкам прарасту.
Тых, хто цэніць толькі хвост,
абмінаю за сто вёрст.
Л _ _ _ _ _ а.

5.

Калі сонейка завяне,
ён спяшае на спатканне.
І ў канцы дзянёчка
ажэніцца з ночкай.
Жаніха, дарэчы,
называюць в _ _ _ р.

*Па вертыкалі:*

Села на рамонак,
зіхціць, як пярсцёнак.
Нештачкі шукае
ды яшчэ спявае.
Не чапай, хай бавіцца,
бо яна кусаецца.
П _ _ _ а.

А хто сам прыдумае загадку на гэтае слова?







*Па гарызанталі:*

1.

Ускочыў звер на галаву!
Паймаю — вушы абарву.
Ці прывяжу вяроўкай,
хай будзе мне абноўкай!
Ш _ _ _ а.

2.

Яна заўсёды пад рукой,
захочаш ты, яна пад вухам.
Набіта пер’ем або пухам,
яна пяшчотная з табой.
П _ _ _ _ _ а.

3.

У люстэрку бачу котку,
што ў руцэ трымае цётка.
А ў той коткі ёсць шчацінка,
якой здзьмухвае пылінкі
з нашай цёткі вельмі вёртка.
І завецца котка — ш _ _ _ _ а.

4.

Распяваліся ў цішы
пад страхою капяжы.
Так завуць не хор птушыны,
а са снегу л _ _ _ _ _ ы.

5.

Тата мне шапнуў на вушка:
— Уставай, мая дачушка.
Праз фіранку промень стужкай,
пад акном запела п _ _ _ _ а.

*Па вертыкалі:*

Ш _ _ _ а.

Дамашняе заданне: разам з маці і таткам прыдумаць загадку, што-небудзь вясёлае хочацца пра ш _ _ _ у.

# Ы




*Па гарызанталі:*

1.

— Гэта нейкая лухта!
Тырчыць ззаду барада,
пад барадой — падкова.
— Ну і што такога?
Завецца звярок
конскі к _ _ _ _ _ к.

2.

Мы падобныя на зайку,
і, як ён, мы любім траўку.
Любім моркву і капусту,
як у зайцаў, маем вусы.
Футра ў нас не для красы,
мы не зайцы, мы — т _ _ _ ы.

3.

Яе футра хоць куды!
Пакідае ад хады
нам птушыныя сляды.

Гэта менавіта
звер каштоўны — в _ _ _ а.

4.

Ну амаль усе народы
з яго робяць бутэрброды,
у салат яшчэ кладуць
і з ахвотаю ядуць.
Самы важны камандзір
сярод страў малочных — с _ р.

5.

Гэта што тут за паненка?
Не адна ў яе сукенка,
а як станеш раздзяваць,
будзеш слёзкі выціраць.
Ц _ _ _ _ я.

6.

Што за рыбіна такая
між далонькамі слізгае?
Толькі змыецца ўвесь бруд,
ляжа ў мыльніцу на кут.
М _ _ а.

*Па вертыкалі:*

Жыла-была рабка
з дзядулем і бабкай.
Яйкі несла спраўна,
кудахтала слаўна.
К _ _ _ _ а.

# Ь




*Па гарызанталі:*

1.

Паштальён прынёс газету
і падаў яе ў акно.
Адтуль выпала ў канверце,
раптам нейкае п _ _ _ _ о.

2.

Кажуць: белы, а не снег.
Кажуць: цэлы, не яечка.
Увесь свет ён абабег,
аж пакуль не стрэўся вечар.
Дз _ _ ь.

3.

Дзе касцёр гарэў, там хлопчык
золата знайшоў грудочак.
Стаў рукою разграбаць,
хацеў золата сабраць.
Ды адскочыў, нібы муха:
там ляжаў гарачы в _ _ _ _ ь.

4.

Заўжды з дрэвам побач ён.
Ты пад дрэва, бы на трон,
сядаеш ахвотна,
калі дзень спякотны.
Ц _ _ ь.

5.

Ім хваробы нават лечаць
і на шыі носяць.
На дне мора ён каменьчык,
к _ _ _ _ ь — на дарозе.

6.

Без мяне не смачны суп,
бо як возьмеш суп на зуб,
то прамовіш ты здзіўлёна,
што суп гэты — несалёны.
С _ _ ь.

*Па вертыкалі:*

Такі слаўны спевуночак,
рабай курачкі сыночак.
Вельмі раненька ўстае,
людзям спаць ён не дае.
П _ _ _ _ ь.

# Э




*Па гарызанталі:*

1.

Як сукенку апранаю,
у яго я паглядаю.
Падміргнула яму раз,
яно гэтак жа ў адказ.
Л _ _ _ _ _ _ а.

2.

Промні сушыць сонейка
на ягоным голлейку,
а пойдзе залева —
стану я пад д _ _ _ а.
Пад ягонай кронай —
як пад парасонам.

3.

З гары ўпадзе — не б'ецца,
згарну ў кулак — не мнецца.
На зуб кладу — трасецца,
аж рэха раздаецца.
А _ _ х.

4.

Ляціць хутчэй за птушку,
услед за ёю — свет.
У доме яна — служка,
а дзе жыве — сакрэт.
Э _ _ _ _ _ _ _ _ _ _ _ _ _ ь.

5.

Да нашай Марысі
нехта прычапіўся.
Што яна ні скажа,
возьме перадражніць.
Пагукала маму,
і яно таксама.
Заспявала песню,
і яно — хоць трэсні!
Р _ _ а.

*Па вертыкалі:*

Пакуль жывеш ты,
яно б'ецца.
Бо твой надзейны сябра —
С _ _ _ а.

# Ю



*Па гарызанталі:*

1.

Мы з суседскім Казікам
наловім карасікаў
ды цэльную торбішчу!
І распалім вогнішча...
паставім вядзерца
на яго пагрэцца
з чыстаю вадзіцай.
Укінем варыцца:
караськоў, пятрушку,
перчыка галушку,
будзе з рыбы ю _ _ а.

2.

Любяць кветкі даглядаць,
бавяцца з зярнятамі,
усё могуць расказаць
нам пра іх ю _ _ _ _ ы.

3.

На вяршыні ён красуе,
калі вецер дзьме — танцуе.

Скажа па сакрэту
Нам кірунак ветру.
**Ф _ _ _ _ р.**

4.

Лыч — баранкам,
хвост — бы крук.
Хто ў калюжыне?
— П _ _ _ _ к.

*Па вертыкалі:*

Калі словы будуць упісаны правільна, то ў вызначаным вертыкальным слупку вы прачытаеце, як завецца малады матрос на караблі: ю _ _ а.

# Я




*Па гарызанталі:*

1.

Мокры пры любой пагодзе,
бо жыве заўсёды ў роце.
Любіць ежу смакаваць,
яшчэ любіць балбатаць.
Я _ _ к.

2.

Сёння крочу я на свята
разам з мамаю і татам.
Кветкі ў мамiных руках,
у мяне ж — на дрэўку с _ _ г.

3.

Сядзіць паночак
каля самых вочак.
Ногі за вушамі,
на носе — кручочак.
А _ _ _ _ _ ы.

4.

Гэта што за карагод,
па якому круглы год
ты звяраеш дату
з мамаю і татам?
К _ _ _ _ _ _ _ р.

5.

Па вадзе — дык коціцца,
на пяску маркоціцца.
Адбяжыць ад краю
і зноў наступае.
Х _ _ _ я.

*Па вертыкалі:*

Пад зялёным вусам
красуе спакуса.
Хто яе мілуе,
таго пацалуе.
Я _ _ _ а.

# САКРЭТНАЯ СТАРОНКА

*Адказы на красворды*

## А

*Па гарызанталі:*
1. Чабурашка
2. Пралескі
3. Жырафа
4. Асіна
5. Чалавек
6. Граблі
7. Парашут

*Па вертыкалі:*
Алфавіт

## Б

*Па гарызанталі:*
1. Жаба
2. Барана́
3. Бяроза
4. Грыб
5. Бабёр
6. Клубніцы

*Па вертыкалі:*
Баабаб

## В

*Па гарызанталі:*
1. Баравік
2. Морква
3. Авечка
4. Вёдры
5. Самавар
6. Вока
7. Вада

*Па вертыкалі:*
Вавёрка

## Г

*Па гарызанталі:*
1. Граматыка
2. Гарызонт
3. Крыгаход
4. Дарога

*Па вертыкалі:*
Град

## Д

*Па гарызанталі:*
1. Дача
2. Код
3. Мода

*Па вертыкалі:*
Дом

## Дж

*Па гарызанталі:*
1. Джэм
2. Дождж
3. Джаз
4. Джунглі
5. Джамбул

*Па вертыкалі:*
Джала

## Дз

*Па гарызанталі:*

1. Тыдзень
2. Пудзіла
3. Мядзведзь
4. Дзьмухавец
5. Кудзеля
6. Халадзільнік

*Па вертыкалі:*

Дзяцел

## Е

*Па гарызанталі:*

1. Свечка
2. Бусел
3. Кенгуру
4. Сланечнік
5. Вешалка

*Па вертыкалі:*

Венік

## Ё

*I. Па гарызанталі:*

1. Слёзы
2. Мёд

*Па вертыкалі:*

Ёд

*II. Па гарызанталі:*

1. Авёс
2. Свярдзёлак
3. Самалёт
4. Лён
5. Васілёк
6. Дзённік
7. Радыё

*Па вертыкалі:*

Вясёлка

## Ж

*Па гарызанталі:*

1. Жыта
2. Жолуд
3. Ружа
4. Марожанае
5. Вожык
6. Сыраежкі
7. Сцяжына
8. Лыжка

*Па вертыкалі:*

Журавіны

## З

*Па гарызанталі:*

1. Зязюля
2. Мароз
3. Гарбуз
4. Каза
5. Званочкі

*Па вертыкалі:*

Зоркі

## І

*Па гарызанталі:*

1. Сінічка
2. Градуснік

3. Кіно
4. Піла
5. Крынічка
6. Падасінавік

*Па вертыкалі:*
Іголка

## Й

*Па гарызанталі:*
1. Кій
2. Двойка
3. Малачай
4. Верабей
5. Гультай
6. Тралейбус
7. Чайнік

*Па вертыкалі:*
Камбайн

## К

*Па гарызанталі:*
1. Барсук
2. Касілка
3. Скрыпка
4. Аловак
5. Цвыркунок
6. Кніга

*Па вертыкалі:*
Карова

## Л

*Па гарызанталі:*
1. Каромысел
2. Вулей
3. Ластаўка

*Па вертыкалі:*
Леў

## М

*Па гарызанталі:*
1. Сумленне
2. Хамяк
3. Зямля
4. Комін
5. Маланка
6. Мама

*Па вертыкалі:*
Маліна

## Н

*Па гарызанталі:*
1. Навальніца
2. Парасон
3. Штаны
4. Жорны

*Па вертыкалі:*
Ноты

## О

*Па гарызанталі:*
1. Глобус
2. Бульдозер

3. Акно
4. Пыласос
5. Малаток
6. Конь
7. Мост

*Па вертыкалі:*
Сенакос

### П

*Па гарызанталі:*
1. Перапёлка
2. Ліпа
3. Сноп
4. Плуг
5. Крапіва
6. Пшаніца
7. Апалонік

*Па вертыкалі:*
Пінгвін

### Р

*Па вертыкалі:*
1. Варона
2. Рыба
3. Камар
4. Сарока
5. Рабіна
6. Ракета
7. Прамакатка

*Па вертыкалі:*
Рамонак

### С

*Па гарызанталі:*
1. Сабака
2. Час
3. Колас
4. Раса
5. Веласіпед
6. Серп
7. Сонейка

*Па вертыкалі:*
Салавей

### Т

*Па гарызанталі:*
1. Кот
2. Экскаватар
3. Балота
4. Світанне
5. Вятрак
6. Лісток
7. Газета
8. Трава
9. Трактар

*Па вертыкалі:*
Тэлевізар

### У

*I. Па гарызанталі:*
1. Вуха
2. Дурань
3. Лопух
4. Дудка

*Па вертыкалі:*
Удод

*II. Па гарызанталі:*
1. Туман
2. Чыгунок
3. Бручка
4. Дуга
5. Шчупак
6. Клубок
7. Павук

*Па вертыкалі:*
Мурашка

## Ў

*Па гарызанталі:*
1. Касманаўт
2. Аўтамабіль
3. Жаўрук
4. Ваўчок
5. Коўш
6. Дзядоўнік
7. Начоўкі
8. Макаўка

*Па вертыкалі:*
Страўнік

## Ф

*Па гарызанталі:*
1. Светлафор
2. Туфлі
3. Тэлеграф
4. Магнітафон
5. Фантан

*Па вертыкалі:*
Філін

## Х

*Па гарызанталі:*
1. Хлеб
2. Муха
3. Хата
4. Завіруха
5. Ухват

*Па вертыкалі:*
Хмара

## Ц

*Па гарызанталі:*
1. Цягнік
2. Нажніцы
3. Медуніца
4. Бліскавіца
5. Цеста
6. Лесвіца
7. Пальцы

*Па вертыкалі:*
Цымбалы

## Ч

*Па гарызанталі:*
1. Чарапаха
2. Качарга
3. Бочачка
4. Лісічка

5. Вечар

*Па вертыкалі:*
Пчала

6. Соль

*Па вертыкалі:*
Певень

**Ш**

*Па гарызанталі:*
1. Шапка
2. Падушка
3. Шчотка
4. Ледзяшы
5. Птушка

*Па вертыкалі:*
Школа

**Ы**

*Па гарызанталі:*
1. Капыток
2. Трусы
3. Выдра
4. Сыр
5. Цыбуля
6. Мыла

*Па вертыкалі:*
Курыца

**Ь**

*Па гарызанталі:*
1. Пісьмо
2. Дзень
3. Вугаль
4. Цень
5. Камень

**Э**

*Па гарызанталі:*
1. Люстэрка
2. Дрэва
3. Арэх
4. Электрычнасць
5. Рэха

*Па вертыкалі:*
Сэрца

**Ю**

*Па гарызанталі:*
1. Юшка
2. Юннаты
3. Флюгер
4. Парсюк

*Па вертыкалі:*
Юнга

**Я**

*Па гарызанталі:*
1. Язык
2. Сцяг
3. Акуляры
4. Каляндар
5. Хваля

*Па вертыкалі:*
Ягада

*Выданне для вольнага часу*

**Шклярава** Ніна Нічыпараўна

**КРАСВОРДЫ І ЗАГАДКІ ДЛЯ ВАШАГА ДЗІЦЯТКІ**
***Алфавіт па парадку, дзівосаў скарбонка, сакрэтная старонка***

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Марына Іванова*
Набор *Ніны Шкляравай*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктары *Наталля Аляксеева, Валянціна Аскерка*

Падпісана да друку 16.06.2008. Фармат 60x84 $^1/_{16}$.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура SchoolBook. Ум. друк. 4,9 арк.
Ул.-выд. 0,84 арк. Наклад 300 ас. Зак. 725.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія ЛВ № 02330/0131712 ад 12.05.06.
220112, Мінск, вул. Я. Лучыны, 38-93.
**Тэл./факс (017) 204-86-97, тэл. (029) 772-19-14, 912-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні
ПУП «Ходр» ГА «БелТІЗ».
ЛП № 02330/0056661 ад 29.03.04.
220004, г. Мінск, вул. Вызвалення, 9.